УзГорак

№ 7 – чэрвень 2003 г. - Газета Грамадскіх арганізацый і ініцыятыў.

# Змены без пераменаў



Чарговая серыя шматгадовага тэлесерыяла «Alexander-шоу», прадэманстраваная беларускім тэлебачаннем пэўным чынам адбілася і на жыцці нашага горада. Старшыня (цяпер ужо былы) горацкага райвыканкама Ўладзімір Далжанкоў прызначаны кіраваць канцэрнам «Белхарчпрам». Былы кіраўнік канцэрна адпраўлены ў запас, як праштрафіўшыйся. Трэба нагадаць, што неклі і сам Уладзімір Сідаравіч прыбыў у Горкі «на паніжэнне» за нейкую правіннасць. Цікава, што ў горадзе за гады яго кіравання найбольш пацярпеўшымі аказаліся менавіта прадпрыемствы харчовай прамысловасці: абанкруціўся і фактычна спыніў існаванне Завод напояў, а маслазавод, які яшчэ нядаўна быў адным з найбольш паспяховых прадпрыемстваў, раптам стаў нерэнтабельным.

Як бачым, бясконцае ўраўненне па перамене месцаў складнікаў з адным невінаватым працягвае рашацца ў старых традыцыях. У той жа час, апошняя падзея яўна мела адной з мэтаў нагадаць, хто ў хаце гаспадар - лёс іраксакга калегі, які ў апошні час быў вельмі ўжо на слыху, мог усяліць у душы апанентаў пэўныя надзеі. Таму ўсім у чарговы раз прапанавана зразумець старую ісціну - гісторыя вучыць нас таму, што гісторыя нас нічаму не вучыць.

Хочацца пажадаць Ўладзіміру Сідаравічу поспехаў у працы, а «калі што» - здолець застацца «ні пры чым» - гэтае вельмі нялішняе ў наш час вуменне былы старшыня не раз выдатна дэманстраваў, працуючы ў Горках. Як-ніяк, пасада сур'ёзная і разбіўкай прыгожых клумбаў каля адміністратыўнага будынка там абысціся будзе цяжка.

**Іван Марозаў**

# Расьсьледаваньне аб выкраданьні В.Ганчараі А.Красоўскага

***Пасьля паўгадовага перапынку зноў адноўленае расьсьледаваньне справы Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага, якія былі выкрадзеныя невядомымі 16 верасьня 1999 году.***



Рашэньне аднавіць расьсьледаваньне прыняў пракурор Менску Мікалай Кулік. Таксама ён вырашыў замяніць сьледчага: далей весьці справу будзе сьледчы ў асабліва важных справах гарадзкой пракуратуры Сяргей Кухаронак. Гэта ўжо трэці сьледчы: раней справу па чарзе расьсьледавалі Сяргей Новікаў і Ўладзімер Чумачэнка. Абодва пасьля шэрагу сьледчых дзеяньняў прызнавалі, што сьледзтва сутыкаецца з пэўнымі цяжкасьцямі, з прычыны якіх завершыць справу немагчыма, і прыпынялі расьсьледаваньне.

Абаронца сваякоў зьніклых Гары Паганяйла не выключае, што да такога выніку прывядзе і дзейнасьць новага сьледчага.

«Насьцярожвае, што сьледчы Кухаронак раней ня быў у сьледчай групе, і калі ён адзін будзе займацца расьсьледаваньнем, без так званай апэратыўнай падтрымкі, то замена нічога ня дасьць. Як кажуць, замянілі шыла на мыла».

Гары Паганяйла паведаміў, што ўзнаўленьне расьсьледаваньня ніяк не паўплывала на рашэньне сваякоў зьніклых і абароны зьвярнуцца з пазовам на ўлады Беларусі ў адзін з эўрапейскіх судоў. Такі пазоў ужо рыхтуецца, гэта будзе бэльгійскі суд.

«Таму што іншай пэрспэктывы мы ня бачым, і іншай пэрспэктывы пры цяперашняй уладзе ня будзе».

Ён паведаміў, што Савецкі раённы суд Менску даслаў адказ на ранейшы пазоў Зінаіды Ганчар і Ірыны Красоўскай, якія скардзіліся на гарадзкую пракуратуру за тое, што там прыпынялі расьсьледаваньне. Як і чакалася, суд адмовіўся разглядаць дзеяньні сьледчых. Судзьдзя спаслаўся на тое, што пракуратура суду «непадведамасная». Гэтая адмова стала новым доказам неабходнасьці апэляваць менавіта да эўрапейскага суду, лічыць Гары Паганяйла.

У гарадзкой пракуратуры не патлумачылі, якія новыя абставіны паўплывалі на рашэньне аднавіць расьсьледаваньне справы Ганчара і Красоўскага. Ці будзе сьледчы Сяргей Кухаронак адзін весьці справу, альбо пад ягоным кіраўніцтвам створаная група сьледчых — у пракуратуры таксама не паведамілі.

***Алег Грузьдзіловіч, «Радыё Свабода»***

# Большнямастанцыі «ПлошчаНезалежнасьці»



***У менскім мэтро больш няма станцыі «Плошча Незалежнасьці». Замест яе ў цягніках цяпер абвяшчаюць «Плошча Леніна». Як сьцьвярджаюць прадстаўнікі Менскага мэтрапалітэну, станцыі «Плошча Незалежнасьці» афіцыйна ніколі не існавала.***
***Абвестка ў мэтро: «Станцыя «Плошча Леніна». Выхад да чыгуначнага вакзалу».***

Гэтак цяпер у менскім мэтро абвяшчаюць станцыю, якую 12 гадоў называлі «Плошчай Незалежнасьці».

Назва «Плошча Леніна» ніколі не зьнікала са сьценаў станцыі пасьля перайменаваньня самой плошчы ў 1991 годзе. Нават калі летась рабілі рамонт падземнага пераходу з боку чыгуначнага вакзалу, назву «Плошча Леніна» захавалі. У Менскім мэтрапалітэне Радыё Свабода паведамілі, што назвы «Плошча Незалежнасьць» ніколі не існавала. Гаворыць начальнік тэхнічнага аддзелу Мэнскага мэтрапалітэну Ўладзімер Кавальскі:

— Афіцыйнага рашэньня аб перайменаваньні плошчы Леніна ў плошчу Незалежнасьці няма. Былі нейкія вусныя распараджэньні кіраўніцтва Менгарвыканкаму.

Паводле начальніка тэхнічнага аддзелу менскага мэтро Ўладзімера Кавальскага, усё пачалося з замены схемаў мэтро месяц таму. Новыя схемы са сваёй рэклямай і назвай «Плошча Леніна» вырабіла кампанія мабільнай сувязі «Velcom».

Вяртаньне імя бальшавіцкага лідэра Леніна набывае ў Беларусі ўсё больш шырокі характар. Сёлета ў Менску была на некалькі кілямэтраў падоўжаная вуліца Леніна. У Чэрыкаве на Магілёўшчыне на ініцыятыву мясцовых прафсаюзаў цяпер зьбіраюць грошы на рэстаўрацыю помніка Леніну.

***Ганна Соусь, Радыё Свабода.***

# Сёлетнія «Крылья» беларускімі вачыма

***Гэтыя «Крылья» былі чацвертымі. Як і папярэднія разы тынэйджэры з Расіі, Беларусі, Украіны ды некаторых іншых краін (з якіх хоць неяк можна дабрацца да Масквы) не прамінулі моманту, каб патусіцца ды адарвацца пад розныя-прырозныя каманды, якія працуюць на былыя краіны СССР. На гэты раз, як і абяцалі велізарныя каляровыя афішы, мерапрыемства сабрала пад адным дахам «Сплин», «Звери», «Чиж и Ко», «Король и шут», «Ва Банкъ». Падмануліся толькі фанаты ды фанаткі «Zемфиры», якая, распусціўшы ўсіх сваіх музыкаў, не з'явілася на канцэрт. У касах, дзе прадаваліся ўваходныя квіткі, папярэджвалі, што «Крылья» будуць без «Zемфиры», таму кожны ахвочы мог вярнуць свае грошы за нескарытаны квіточак.***






Дарэчы, менавіта каля касаў і адбылася змрочная падзея, якая шмат у чым сапсавала свята. Дзве дзяўчыны, як кажуць у Расіі, «каўказскай нацыянальнасці», абвязаўшыся выбуховымі прыстасаваннямі, здзейснілі акт суіцыду ў вялікай чарзе за квіткамі. Сярод тых, хто загінуў, была і дзяўчынка з Беларусі, з Бабруйску. Знаёмая Наталля, якая распавяла мне гэтую гісторыю, казала, што беларусаў на канцэрце было няшмат, бо дабірацца дорага, а на папулярны сярод моладзі Захаду «аўтастоп» пагодзіцца не кожны. Выратавала Наталлю і яеных сяброў толькі тое, што квіткі на канцэрт яны набылі яшчэ на Арбаце. Сам выбух адбыўся а трэцяй гадзіне апоўдні (а канцэрт ужо ішоў напоўніцу тры гадзіны!) Глядачы і не ведалі, што адбылася трагедыя. Ды і дзе там даведаешся: сорак тысяч маладзёнаў спакойна сабе таньчылі ды падпявалі сваім кумірам. Арганізатары адразу забяспечылі адвозку ўсіх ахвочых да мятро на бясплатным аўтобусе.

Калі забыцца на хвілінку на сумныя справы і ўявіць сваю прысутнасць на сёлетніх «Крыльях», дык можна зазначыць, што заплаціўшы ўсяго 120 расійскіх рублёў, можна было не толькі класна правесці час, але і назапасіць цэлую кучу ўражанняў, якімі спакойна можна яшчэ дзяліцца з сябрамі ды знаёмымі. Ды і што тут казаць, калі «Крылья» ўжо актыўна круцяць па MTV. Ну, найперш канцэрт наведалі прыкольныя ўкраінцы з гурта «Пятніца», які стаўся апошнім адкрыццём для расійскага шоў-бізнесу. «Пятніца» - гэта вясёлае і добра зробленае рэггі на дзвюх гітарах і двума неблагімі галасамі. Як і чакалася «Пятніца» парвала залю. «Я солдат » ну і так далей, што пераказваць песьню?..

Аднак шоў рабілі не толькі выступоўцы, але і некаторыя ўдзельнікі. Асабліва з іх выдзеліліся беларусы. Дома паматляць бел-чырвона-белым сцягам няма дзе, дык яны давай у Расію, на канцэрт. Калі адкінуць сарказм, дык сапраўды расійскія тынейджэры, адкрыўшы рот назіралі за тым, як над натоўпам віўся невядомы ім сцяг. З музыкаў толькі лідэрка гурта «Ночные снайперы» Дыяна Арбеніна адзначыла гераізм беларускіх патрыётаў, пазнаўшы родную сімволіку нават на чужыне (сама Дыяна таксама з нашых месцаў).

Калі вам спадабалася ідэя наведаць «Крылья», дык ведайце, што Расія, нягледзячы на саюзнае будаўніцтва, усё яшчэ не блізкі свет. У «нашых людзей» атрымліваецца дабірацца за паўдні, не менш. Гэта аднолькава - што хуткім цягніком, што аўтастопам. Аднак масавыя мерапрыемствы там становяцца ўсё менш бяспечнымі. Праз цяперашні тэракт, што перапужаў ахову на «Крыльях» хутчэй за ўсё адменяць сёлетняе «Нашествие».

Што ж, тады давядзецца аматарам вялікіх тусовак і жывой музыкі блукаць па беларускіх відовішчах, якіх у гэтым годзе таксама плануецца багата.

**Ілля Заранок**

# Апазыцыя выпрацоўвае супольную стратэгію на выпадак рэфэрэндуму

***Пяць самых буйных апазыцыйных партыяў Беларусі дамовіліся пра супольную стратэгію ў выпадку правядзеньня ўладамі рэфэрэндуму аб працягу паўнамоцтваў прэзыдэнта. Яны мяркуюць узяць удзел у гэтай кампаніі й агітаваць супраць намераў Лукашэнкі. А ЛДПБ прапануе тактыку байкоту тагога рэфэрэндуму.***












Кансультацыі паміж кіраўніцтвам БНФ, АГП, Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, Партыі працы і ПКБ аб супольнай стратэгіі падчас верагоднага рэфэрэндуму на тэму працягу прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў А. Лукашэнкі выйшлі на прамежкавы фініш. Дасягнутыя прынцыповыя пагадненьні адносна агульнай пазыцыі. Гаворыць лідэр АГП Анатоль Лябедзька:

«Першае, што палітычныя партыі ў сёньняшніх умовах, пры існуючым заканадаўстве і практыцы яго прымяненьня катэгарычна супраць такога рэфэрэндуму. Другая пазыцыя — калі Лукашэнка ўсё ж не зважаючы на вынікі сацапытаньняў, на адсутнасьць палітычнай падтрымкі з боку міжнароднай супольнасьці і Масквы, пойдзе на рэфэрэндум, то партыі ня будуць яго байкатаваць.

А будуць актыўна браць удзел, зьвяртаючы ўвагу на тое, што каля 5 мільёнаў выбарцаў падтрымліваюць у пытаньні недапушчэньня зьмены Канстытуцыі дзеля працягу паўнамоцтваў А. Лукашэнкі. Ёсьць таксама супадзеньне пазыцыяў па тым, што пытаньне рэфэрэндуму зьяўляецца прыярытэтам нумар адзін».

Анатоль Лябедзька кажа, што на наступным тыдні будзе распрацаваны плян канкрэтных захадаў у справе процідзеньня працягу паўнамоцтваў А. Лукашэнкі. Да гэтых захадаў змогуць далучыцца й іншыя апазыцыйныя партыі. Спадар Лябедзька лічыць, што верагоднасьць канстытуцыйнага рэфэрэндуму высокая, але падрыхтоўка да яго яшчэ не перайшла на ніжэйшыя ўзроўні вэртыкалі.

«Калі гэты рэфэрэндум адбудзецца, то ён будзе праходзіць у прынцыпова новых умовах. Яшчэ ніколі Лукашэнка не праводзіў рэфэрэндум, маючы такі нізкі асабісты рэйтынг. І па-другое, ніколі яшчэ не было рэфэрэндуму, калі А. Лукашэнка ня меў моцнага тылу ў выглядзе Расейскай Фэдэрацыі».

Цяпер дзьве гэтыя акалічнасьці прымушаюць А. Лукашэнка пакуль прамаруджваць і вагацца, прымаць канчатковае рашэньне ці не — сказаў А. Лябедзька.

Адзін зь лідэраў ПКБ Алена Скрыган таксама мяркуе, што сёлета няма аб'ектыўных умоваў для абвяшчэньня рэфэрэндуму аб працягу паўнамоцтваў А. Лукашэнкі. Але апазыцыі рыхтавацца трэба і да гэтай кампаніі, і да выбараў у парлямэнт.

«Першае, трэба дабівацца зьменаў у Выбарчы кодэкс. Другое — гэта немагчымасьць удзелу ў парлямэнцкіх выбарах і магчымым рэфэрэндуме без сыстэмы назіраньня. Таму мы таксама ўжо працавалі на многіх выбарах разам зь іншымі палітычнымі партыямі. Магчыма, мы пойдзем і на тое, каб прынамсі ведаць, хто ў якой акрузе вылучаецца, і колькі будзе дэмакратычных кандыдатаў у кожнай акрузе», — сказала Алена Скрыган.

Прадстаўнікі апазыцыі лічаць, што калі ўдасца дабіцца зьменаў у Выбарчы кодэкс, то яны могуць разьлічваць на палову складу парлямэнту. Калі ня ўдасца, то выбарчую кампанію яны выкарыстаюць для растлумачальнай працы, каб паказаць людзям альтэрнатыву цяперашнім уладам.

Тым часам у ЛДПБ асобная пазыцыя. Паводле яе кіраўніка Сяргея Гайдукевіча, партыя ўмацоўвае свае рэгіянальныя сруктуры, і ў будучых палітычных кампаніях яна будзе браць удзел самастойна. Адносна верагоднага рэфэрэндуму ЛДПБ займае пазыцыю байкоту:

«Любая палітычная партыя ня можа ўдзельнічаць у такім бяспраўі. Таму — найактыўнейшы байкот, актыўна ўздымаць пытаньні, трэба ісьці ў насельніцтва, трэба вырашаць пытаньні, вырашаць праблемы».

Сяргей Гайдукевіч лічыць памылковай адмову БНФ, АГП ды іншых партыяў ад стратэгіі байкоту верагоднага рэфэрэндуму.

***В.Каліноўскі, «Радыё Свабода»***

# Слуханьні па справе Слабадана Мілошавіча адновяцца 25 жніўня

**Слуханні Міжнароднага трыбуналу для былой Югаславіі па справе былога югаслаўскага лідэра Слабадана Мілошавіча прыпыненыя да канца тыдня, што зьвязана з станам яго здароўя. Праіэс адновіцца 25 жніўня пасьля летніх вакацыяў самога Гагскага трыбуналу, якія пачынаюцца ў наступны панядзелак, перадае ИТАР-ТАСС. Слуханьні па справе Слабадана Мілошавіча былі адкладзеныя ў панядзелак у сувязі з пагаршэньнем яго стану. Былы югаслаўскі лідэр пакутуе на высокі артэрыяльны ціск.**

***Хартыя'97.***

# Кантрабанда

**На Бабруйскім мытным пасту затрымана больш за 20 тонн дэкаратыўнай паперы агульным коштам 246.367.000 тыс. рублёў.**

***Данута Чыгір***

# Ініхтоне бачыў

З даху кароўніка ў в. Дзягавічы Крычаўскага раёну знялі Семсот дзевяноста два лісты шыферу. Дырэктар УКСП «Крычаўскае» звярнуўся з заявай у РАУС. Злачынцы пакуль не выяўлены.

***Кацярына Яленская***

# Змены кіраўнікоў

**З пачатку года ў дзевяці з васемнаццаці калгасах і саўгасах Бялыніцкага раёна адбыліся змены кіраўніцтва.**

**За апошні час падаў заяву аб звальненні па ўласным жаданні старшыня калгасу імя Чкалава, пайшоў у адстаўку кіраўнік калгаса «Наша перамога»; пасля рэпартажу ў «Навінах» па АНТ, у якім узгадвалася аб згубе 18 калгасных кароў, што налізаліся сілітры, звольніўся дырэктар саўгаса «Каліноўскі».**

***Базыль Лиіцьвінович***

# Індыя стала бліжэй

***11 чэрвеня ў зале выстаў Горацкага гісторыка-этнаграфічнага музея прайшла цікавая сустрэча з індолагам і ўсходазнаўцам Міхалам Іванавічам Міхайлавым. Ён распавёў слушную лекцыю аб культуры блізкай і адначасова далёкай нам Індыі.***

Падаецца, што беларуса можа прывабіць у Індыі? Звычайная цікавасць. Ці ведаеце вы чалавека, які можа абыякава ставіцца да спеваў, танцаў, паэзіі ды архітэктуры Індыі? Для таго, хто не меў шанец убачыць такі індыйскі краявід, як палац Тадж Махал. Лектар даступна распавёў пра багатую гісторыю, крыніцы рэлігіі, звычаі і пра належнасць краіны на Ганзе да старажытных цывілізацый.

Міхайлаў давёў да слухачоў пра тое, што Індыйскі народ да гэтага часу паважае думкі і погляды сваіх продкаў, аб гэтым распавядаюць старадаўнія кнігі-летапісы «Ведзі». Раней жыхары гэтага кантыненту ўвазносілі Месяц і яго 28 стаянак «Награр», Багіню сусвету Сарасваці, што была абаронцам мастацтва, музыкі і мовы. Яна — Маці-царыца Сусвету і яе калыска. Да наяўных дзён людзі кожнай вёскі ўшаноўваюць культ Багіні-Маці. Галоўнымі багамі прызнаюць Вішну, Шыву і Буду, ім прысвечаны шматлікія храмы непараўнальнай прыгажосці, а таксама багатыя святы і фестывалі.

Калісьці плямёны пакінулі рэгіён ракі Інд, таму што там сталася пустэльня. Гэтыя плямёны праз Азію паступова выйшлі ў Еўропу і пачалі там сяліцца. Сведкам таму — мова, якая з'яўляецца асноўным складальнікам германскай і раманскай моўных груп. Славянская група датыкаецца да іранскай, а тая цесна звязана з індыйскай.



Сучасная Індыя — краіна дзе пануе шматмоўе і касты, якія ў сваю чаргу робяць жыццё тамашніх людзей багатым на кантрасты. Неверагодная пышнасць і галеча крочаць побач. Адны жывуць у вялізарных палацах, іншыя — у пылу, пад прамянямі палючага сонца.

Удзельнікі сустрэчы атрымалі вялікае задавальненне. Яны задавалі шмат пытанняў, выказвалі падзякі лектару за цікавую і карысную інфармацыю, ды і проста за адпачынак.

***Навуковы супрацоўнік гістарыка-этнаграфічнага музея***
***Л. А. Аўраменка***

**P.S.** Міхал Іванавіч жыве ў Горках. Ён скончыў інстытут замежных моваў у Мінску, інстытут усходазнаўства Акадэміі Навук СССР, што ў Маскве, і мае ступень доктара. Наш усходазнаўца выкладае ў Мінску, чытае там спецыяльны курс. Міхайлаў выдаў кнігу Кшэмендры «Основы истинного добронравия». У гэтай кнізе сабраны этычныя і сатырычныя паэмы паэта XI стагоддзя. Да яе Міхайлаў напісаў прамову і вялікі каментар, які ўвасабляе энцыклапедыю індыйскай міфалогіі і культуры. Кіруючай думкай эпічных паэм з'яўляецца імкненне да духоўнага і абычайнага адраджэння свайго народа, а таксама людскія эстэтычныя пачуцці: жалоба, літасць, спагадненне. Міхал Іванавіч удзельнічаў у сусветных санскрыталагічных канферэнцыях, што праходзілі ў Аўстраліі, Італіі, Індыі. Яго даклад аб расшыфроўцы міфаў і каляндара быў прызнаны лепшым. Зараз працуе над перакладам кнігі «Рамяны» з санскрыту, якую ўзвышаюць у Індыі ня менш за «Ведзі».

# Дело БДГ живет и побеждает

## Несмотря на все попытки властей ликвидировать «неудобную» газету, её журналисты продолжают «выходить в эфір




Сегодня мы располагаем двумя изданиями, продолжающими «генеральную линию» БДГ - линию, направленную на правдивое описание всего творящегося сегодня в нашей стране. «Каб сонца засланіць, вушэй аслiных мала» - антифашистские строки Кандрата Крапивы вдруг стали актуальны в Беларуси на начало третьего тысячелетия. Неуклюжие попытки «затыкания ртов» приводят, как правило, к обратному эффекту. Хочется говорить больше.

«Ну и что тут такого? Было из-за чего шум поднимать» - реакция человека, давно ожидавшего возможность прочитать наконец-то вышедшие в свет статьи, была несколько удивленной. Значит - было. В русле текущего момента, любая неконтролируемая и не одобренная к распространению информация для власть предержащих не только нежелательна, но и опасна. Только вот построение «железного занавеса» вокруг одной отдельно взятой страны, находящейся в центре Европы, разбивается нынче о неподъёмную для горе-строителей глыбу, именуемую информационным пространством. Не зря же путчисты семнадцатого года первыми своими целями назвали почту, телеграф, телефон. (Современный вариант из анекдота о воскресшем Ленине: «берем почту, телеграф, телефон, Интернет..) Обеспечьте человеку доступ исключительно к отфильтрованной в нужном русле информации, вбейте ему в голову, что по-иному быть не может, потому, что не может быть никогда, и он, скореевсего, будет делать то, что вам нужно. Этакий античный рабовладельческий лозунг «Разделяй и властвуй» в его современном прочтении.

Короче говоря, БДГ снова выходит. Пока рано говорить о какой-то периодичности, но по мере издания номеров (название тут принципиального значения не имеет) эта газета будет поступать к нам в редакцию. Те, кто хотел бы её читать, могут звонить по тел. 23-5-24. Лучше это сделать в понедельник с 14 до 18 часов - вам гарантировано ответят. В другие дни - как получится. Если позвоните поздно вечером, или рано утром - не страшно.

**На всякий случай.**

Не стремимся сравнивать масштабы, но недавно наша редакция получила очередной «от ворот поворот» в райисполкоме. После почти что месячной выдержки письма с очередной просьбой согласовать размещение редакции в арендованном у небезызвестного «Феникса» кабинете, райисполком сообщил нам, что у владельцев помещения «изменились обстоятельства» и они отозвали своё согласие предоставить нам помещение. На радостях вертикаль не стала утруждать руководителей фирмы, а сообщила нам об этом самостоятельно в письме, подписанным аж самим председателем. О том, каким образом власти и коммерсантам удалось достичь столь тесного взаимопонимания остаётся только догадываться.

***Иван Морозов.***

# Куда пойти — учиться?



У вчерашних выпускников уже позади школьные экзамены. Да, незаметно пролетело детство! Сейчас они, не успев, как следует, «оторваться от маминой юбки» оказались на пороге взрослой жизни. Куда пойти учиться — непроизвольно возникает дилемма? Какую специальность выбрать: гуманитарную или техническую? Поверьте, (я вспоминаю себя) - это один из самых ответственных этапов в жизни человека. Если Вы, уважаемые выпускники, так и не смогли определиться с выбором, принять САМОСТОЯТЕЛЬНОЕ решение, не торопитесь! Не стоит, к примеру, поступать на зооинженерный факультет только потому, что там работает тетя Клава (лучшая мамина подруга), а Вы всю сознательную жизнь играли на гитаре и не мыслите без нее своего существования. А один вид пятнистой Буренки или чумазого поросенка вызывает сильнейшую аллергию! Предположим, Вы поступите на зоофак, так как всю жизнь были хорошим мальчиком и воспитывались по принципу слово Мамы - Закон. Пять долгих лет - свои лучшие молодые годы — Вы будете, в лучшем случае, скрипя зубами отсиживать лекции по животноводству, составлять причудливые схемы осеменения коров, и при этом задавать себе вечный вопрос: «А зачем мне это нужно?»

Ну ладно, так и быть, поделюсь с Вами собственным опытом, далеко не образцовой студентки, секретами студенческой «кухни».

Действительно, зачем горделивым доцентам, читая лекции «аморфным» студентам вкладывать туда всю душу? Если они слушают ее «в пол-уха» или листают «втихаря» бульварные газетки (ну хоть чем-то интересуются). А то и просто «забивают» на лекции. Ходят, в лучшем случае, на практические занятия. Таких «серьезных» поглотителей знаний, по моим наблюдениям, примерно около семидесяти процентов всех учащихся. Остальные тридцать (это идеальный вариант), у нас, в Горецкой академии условно называют «рвачами». Это почетное званьице получают, прилежные ученики-зубрилы.

А Вы, уважаемые абитуриенты попытайтесь самостоятельно поразмыслить: на чем основана подобная градация? Ну что же, не буду слишком сильно напрягать Ваши мозги (потенциал которых нужно поберечь для вступительных экзаменов), придется «раскалываться» до конца. Этим семидесяти процентам, специальность инженера выбирала заботливая мамаша по следующему принципу: зачем моему чаду, которое не представляет своей жизни без игры на гитаре, ехать из Горок в столицу, в Академию Искусств? Он же у меня еще дитятко несмышленое, а там плохих компаний много, не дай Бог, еще курить и пить научат, испортят такого хорошего мальчика! А тут еще дядя Степа, заслуженный профессор, дополняет: «Не мужское это дело на гитаре «бреньчать»! Слушай маму, ничего, что факультет не нравится, ты же и сам еще плохо разбираешься. Потом благодарить будешь, что послушал маму и престижную высокооплачиваемую профессию выбрал. Окончишь учебу, я тебя в Министерство устрою...» Смотрит такой хороший мальчик на своих опекунов-нянь, аж чуть не плачет, что так и не сможет осуществить мечту детства: стать - звездой, как Цой! Уже и наколку с именем своего кумира сделал, целую тетрадку песенок сочинил. И все напрасно. Придется становиться каким-то Министром... Видит дядя Степа слезы на глазах хорошего мальчика и молвит: «Да не хнычь ты, ей-богу, главное на лекции ходи, а коль «хвосты» появятся, мы сдавать поможем... Станешь потом Большим Министром! Все тебя уважать и бояться будут!

Вот откуда берутся эти семьдесят процентов «страстных» поглотителей знаний, которые пять лет, ходят в вуз, как на каторгу. А потом такие «высококвалифициированные» специалисты, становятся местными «олигархами» — директорами совхозов или Премьерами. В кулуарах принимают ОНИ стратегически важные, для развития экономики страны, решения... А престарелые мамы и папы потом удивляются: «И почему мы до сих пор так плохо живем?» Наверное, живем, так же, как учимся и после — работаем.

Есть и другие причины, по которым выпускники наших школ не хотят поступать в родные белорусские вузы.

**Сережа, выпускник средней школы г. Горки:**

— Да зачем мне идти учится в БГСХА, если потом, по распределению, придется отрабатывать государственное обучение в дальнем колхозе. Ни за что, даже председателем колхоза не буду. Там молодежи почти не осталось - скучно жить будет. Да и зарплаты маленькие. Я бы лучше поехал учиться за границу. Все мои друзья только об этом и мечтают. Уровень жизни за рубежом, как правило, гораздо выше.

А может нам, всем махнуть рукой на родную краину, со всей ее экономической нестабильностью, со всеми процессами инфляции и дефляции белорусского «зайчика». Да и рвануть в туманное зарубежье за поисками лучшей жизни. Поймите, спадары-беларусы, даже если прикрыть на мгновение глаза на такое понятие как «патриотичность - любовь к родине, уже только потому что она одна единственная, хорошая или плохая - но другой не будет», вряд ли мы там кому-то нужны. В странах запада, в отличие от Беларуси, превалируют другие ценности. Там Своя нация — лучшая в мире! А какие-то эмигранты, из страны, не входящей даже в Евросоюз, условно относятся к людям «третьего мира», то есть третьего сорта.

Давайте лучше останемся неисправимыми оптимистами - истинными патриотами своей страны, пускай даже максималистами. И будем свято верить: будущее экономически процветающей Беларуси за энергичными и предприимчивыми людьми; все-таки Высококвалифицированными специалистами - выпускниками отечественных вузов!

***Анна Игнатович***

# «Лета – 2003»

Дзеля прыцягнення школьнікаў да грамадска-карыснай працы на час летніх вакацый Бялыніцкі райвыканкам абвесціў конкурс на лепшае працоўнае аб'яднанне вучняў «Лета - 2003».

Звычайна, падчас летніх выкацый у калгасах і саўгасах раёна, на прышкольных гаспадарках занятыя працай больш за 20 вучнёўскіх калектываў.

# Буйничское поле

Накануне Дня освобождения Беларуси от немецко-фашистских захватчиков завершено строительство второй очереди мемориального комплекса «Буйничское поле».

Главный вход украсила арка с барельефами и надписями о происходивших здесь в 1941 году событиях. Углублено «озеро слез», посажены три тысячи деревьев, которые символизируют количество воинов оборонявших город на этом рубеже. Во внутренней части мемориальной каплицы сделаны интерьеры, которые включают в себя художественные росписи, написанные могилёвским художником Александром Суворовым по мотивам сражений Великой Отечественной войны и на религиозные темы, скульпторами Юрием Павловым и Владимиром Кононовым выполнены художественные барельефы.

В день освобождения Могилёва в погребальнице каплицы захоронены останки шести погибших воинов-защитников города, которые были найдены в конце мая поисковым отрядом ВИККРУ на местах боев при обороне Могилёва.

**Катерина Иванова**

# На абароне Закона

За першую палову 2003 года Крычаўскай міжрайпракуратурай былі праведзены 42 праверкі выканання заканадаўства ўстановамі, прадпрыемствамі, грамадзянамі. У выніку да дысцыплінарнай адказнасці прыцягнута 130 пасадавых асоб і грамадзян, вынесена 22 пратэсты на незаконныя прававыя акты, унесена 40 прадстаўленняў і прадпісанняў аб ухіленні парушэнняў закона.

Летась у гаспадарчы суд было падрыхтавана 12 іскавых заяў аб спагнанні больш за 200 млн. рублёў на карысць завода гумавых вырабаў, ВРУП «Крычаўцэментнашыфер», спіртзавода «Чырванабудскі», мясакамбіната ды іншых. Большасць з іх задаволена ў поўным памеры. Пакараны 8 супрацоўнікаў РАУС, 15 пазбаўлены прэміяльных даплат.

**Кацярына Яленская**

# Бярыце, дзе хочаце

З-за адсутнасці грашовых сродкаў у раённым бюджэце Бялыніцкі райвыканкам усклаў на арганізацыі, прадпрыемствы, установы мястэчка расходы па набыцці 1275 квадратных метраў пліткі і 410 метраў бартавога каменю для добраўпарадкавання цэнтральнай вуліцы мястэчка - Савецкай. Матэрыялы да 1 ліпеня павінны быць перададзены ва УКП «Жылкамгас».

Даведзены план здолелі выканаць толькі лічаныя арганізацыі.

**Базыль Ліліцьвінович**

# І муха не праляціць

У мінулым 2002 годзе ў Бабруйску было зафіксавана 48165 парушэнняў правілаў дарожнага руху. За пяць месяцаў гэтага года правілы былі парушаны 18284 разы, што амаль на чатыры тысячы больш, чым летась.

**Данута Чыгір**

# Калі-небудзь заплоцяць

Дзевяць прамысловых і адно будаўнічае прадпрыемствы не выплацілі заробкі за травень, а некаторыя маюць запазычанасці за красавік. У ліку неплацельшчыкаў ФанДАК, абутковая фабрыка, леспрамгас.

**Данута Чыгір**

# Духоўнае папаўненне

Бібліятэка шклоўскага касьцёлу Сьвятых Пятра і Паўла папоўнілася кнігамі з прыватнай бібліятэкі Натальлі Рославай. Кніжкі былі перададзены касьцёлу ў дзень Сьвятых Пятра і Паўла грамадзкім аб'яднаньнем «Кола сяброў» з згоды сваякоў знанай грамадзкай дзяячкі. Адбывалася ўрачыстасьць падчас набажэнства.

Паводле польскай дасьледніцы старажытнага Шклова ў 17 ст. мясцовы кляштар быў найвялікшым сярод дамініканскіх кляштараў на Беларусі. Тут знаходзіліся каштоўныя абразы і вялікая бібліятэка. Законьнікі вывучалі філязофію і тэалёгію. У 2002 годзе шклоўская суполка Таварыства Беларускай мовы пры падтрымцы ксяндза пробашча Аляксандра Багдановіча ініцыявала захады на адраджэньне некалі багатай кніжніцы шклоўскага кляштара. Дбаньнем рупліўцаў, кажа старшыня суполкі Аляксандар Грудзіна, кніжны фонд бібліятэкі расьце на вачох і ўжо цяпер варта казаць аб наяўнасьці неблагой тэматычнай калекцыі.

Тым часам Шклоўская раённая бібліятэка адмовілася падпісывацца і атрымоўваць газэту Таварыства Беларускай Мовы «Наша Слова». Спробы высьвятліць падставы скончыліся безвынікова.

**Алесь Асіпцоў**

# Кажы добры дзень!

***Як вітацца раніцаю? Што скажаце пра рэгулярнае цяпер вітаньне «Добрай раніцы!»? Ці ўжываеце яго, ці натуральнае яно для вас?***

Усе пытаньні ад таго, што так - словамі «*Добрай раніцы!*» - да савецкага часу ў Беларусі не віталіся. Раніца, ранак - усяго толькі частка дня, яго пачатак. На дварэ раніца - значыць, адышла ноч і надышоў дзень. У беларускім моўным этыкеце не было асобнага вітаньня на ранак, таксама, як няма яго, скажам, у французаў або суседзяў-палякаў. Вякамі і раніцаю, і ўдзень беларусы віталі адны адных, абыходзячыся бяз «*Добрай раніцы!*»: «*Добры дзень!*», «*Дзень добры!*», «*Дабры дзень!*». Вітаньне «*Добрай раніцы!*» скалькавалі ў мінулым стагодзьдзі з расійскай формы «*Доброго утра!*». Скалькавалі ня дужа творча, похапкам, не зважалі на немілагучны зьбег зычных *рай-ра*: «*Добрай раніцы!*». Але ж расійская сыстэма каардынат, у гэтым выпадку моўных, зрабіла сваё - у нашай літаратурнай мове форма «*Добрай раніцы!*» збольшага прыжылася. І тут выходзім на даволі далікатнае пытаньне: як усё-такі быць з гэтай «*добрай раніцаю*», зь вітаньнем, для часткі з нас ужо звыклым, натуральным? Ня думаю, што ўдасца сёньня цалкам выкасаваць з мовы такое вітаньне. Аднак ведаць пра яго нетрадыцыйны, калькаваны характар і старацца вітацца так, як віталіся па-беларуску стагодзьдзямі, трэба. Цяпер - раніца, пачатак дня. І я вітаю вас: «*Добры дзень!*», «*Дабрыдзень!*», «*Добрага вам дня!*».

**Юрась Бушлякоў, «Радыё Свабода»**

Газета УзГорак

**Рэдактар** - ***Эдуард Брокараў;***
**тэхнічны рэдактар** - ***Дзям'"ян Франкоўскі.***
**E-mail**: *dnescer@tut.by*
Выпуск-6, ад 25.07.2003 г. Фармат - А-4, 8 палос. Наклад - 299 асобнікаў
**Адрас рэдакцыі:** *Магілёўская вобл., г. Горкі, зав. 2-гі Магілёўскі, д.1.*
Надрукавана на тэхніцы горацкага раённагааддзялення РГА **«*Беларускі рэспубліканскі клуб выбаршчыкаў*».**